ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 122 (5304)
Аўторак, 23 кастрычніка 2001 года
Кошт у розніцу — 82 руб.

Рэформа школы ў дзеянні

## "...яны не пусты феерверк"

***Адораныя дзеці... Літаратурны крытык, мастацтвазнаўца і гісторык Уладзімір Стасаў аднойчы расказваў Льву Талстому пра адоранага падлетка. Вялікі пісьменнік адказаў: "Ах, гэтыя мне вундэркінды! ...Няхай вырастуць, падужэюць, дакажуць, што яны не пусты феерверк!"***

Менавіта гэтая размова ўсплывае ў памяці, калі маю справу з выхаванцамі гімназіі – адоранымі дзецьмі.

З уласнай практыкі ўпэўнілася, што адораныя дзеці валодаюць незвычайнаю здольнасцю "паглынаць" веды, любяць карыстацца слоўнікамі, энцыклапедыямі, рознымі вучэбнымі дапаможнікамі, першакрыніцамі. І настаўніку даводзіцца быць не столькі выкладчыкам свайго прадмета, колькі рабіць пэўныя захады па ўвядзенні такіх дзяцей у навуку...

Па ініцыятыве навукова-метадычнага савета ў гімназіі створана творчая лабараторыя настаўнікаў "Адораныя дзеці: выяўленне і развіццё здольнасцей". На яе базе працуюць аўтарская педагагічная майстэрня настаўніка астраноміі В.А.Голубева, майстар-класы выкладчыцы хіміі С.Г.Сухадолавай, выкладчыцы англійскай мовы В.В.Прохаравай, выкладчыцы прадмета "Філасофія для дзяцей" і сусветнай мастацкай культуры, кандыдата філасофскіх навук Т.Л.Вялюгінай, выкладчыка музыкі і спеваў кандыдата педагагічных навук Ю.С.Сусед-Велічынскай, аўтара вучэбнага дапаможніка па рускай літаратуры Т.М.Гронскай.

Усё названае мае на мэце навучанне калег метадам работы з інтэлектуальна адоранымі дзецьмі, стварэнне такіх умоў, пры якіх дзецяй можна "навучыць вучыцца" – г.зн. авалодаць прыёмамі вучэбнай дзейнасці, якія развіваюць іх адоранасць.

Ужо некалькі гадоў займаецца па індывідуальным вучэбным плане дзевяцікласнік Аляксей Путаў. Ён стаў пераможцам рэспубліканскіх алімпіяд па хіміі летась і пазалетась. А на 35-й міжнароднай алімпіядзе ў Маскве атрымаў сярэбраны медаль.

Пяць гадоў у гімназіі дзейнічае вучнёўскае навуковае таварыства "Дрюмич". Яно прадметна паспрыяла таму, што за гэтыя гады больш за 150 вучняў гімназіі прынялі ўдзел у гімназічных, абласных і рэспубліканскіх навуковых канферэнцыях. Ды і па-за межамі краіны выхаванцы гімназіі дастойна трымалі марку як роднай навучальнай установы, так і рэспублікі. Напрыклад, Андрэй Талочка ў Венгрыі на Міжнароднай навуковай канферэнцыі школьнікаў быў удастоены бронзавага медаля за паказаныя ім веды па фізіцы.

У гімназіі шчыра парадаваліся за Ганну Калкову. Яна вызначылася ў праграме "Акт у падтрымку свабоды" (ЗША, штат Місісіпі, горад Кліптан). Гімназістка стала пераможцай у агульнанацыянальным конкурсе творчых работ і ў якасці прыза атрымала запрашэнне на сустрэчу з амерыканскімі кангрэсменамі. Цяпер выпускніца гімназіі працягвае вучобу ў інстытуце кінематаграфіі ў Санкт-Пецярбургу.

Гонар гімназіі – выпускніца Каця Бас. Яна адзначана прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за перамогу ў рэспубліканскім конкурсе "Грамадазнаўству XXI стагоддзя – ініцыятыву і творчасць моладзі Беларусі".

А ўвогуле калі казаць пра "абцяжараных" дыпломамі за перамогі ў абласных навуковых канферэнцыях па фізіцы і астраноміі, дык летась сярод іх было ажно восем вучняў. Сярод іх варта назваць прозвішча юнага астранома, на той час пяцікласніка Аляксея Галаванава.

Выніковай для адораных вучняў была V рэспубліканская канферэнцыя. Чатыры вучні былі адзначаны дыпломамі. На працягу апошніх пяці гадоў гімназісты ўдзельнічаюць у рабоце летняй рэспубліканскай навукова-доследнай школы ў Лужасна, злётах юных астраномаў СНД, конкурсе "Бел-Юніёр-2000".

"Ураджайным" стаўся і сёлетні год. Сем гімназістаў прымалі ўдзел у XI Міжнародных Сахараўскіх чытаннях у Санкт-Пецярбургу і былі адзначаны дыпломамі.

Творчай актыўнасці адораных дзяцей садзейнічаюць заняткі ў рознаўзроставых прадметных факультатывах, гуртках (больш чым 30), "Днях свободного погружения в предмет", самастойныя творчыя работы, конкурсы, дзе вядуць заняткі выкладчыкі ВНУ, штогадовы інтэлектуальны марафон, удзел у выпусках газеты "Праменьчык", зборнікі вершаў і аўтарскіх вершаў.

З леташняга года пашырыліся межы навуковай дзейнасці нашых гімназістаў. Так, яны сталі ўдзельнічаць у рабоце над міжнароднымі тэлекамунікацыйнымі праектамі I*EARN. Гэта "Learning Circle" (кругі пазнання), "Teddy-Bear" (медзведзяня), "Inside View" (погляд знутры). Праекты прыцягваюць увагу, выклікаюць зацікаўленасць дзяцей і падлеткаў розных краін свету, дазваляюць ім знаходзіць агульную мову са сваімі аднагодкамі за мяжой.

Пасля аналізу вынікаў праекта "Inside View" дзесяцікласніца Лідзія Гайтамонава атрымала прапанову ад галоўнага рэдактара міжнароднага інтэрнет-часопіса (Грэцыя) падрыхтаваць некалькі артыкулаў пра Беларусь, пра жыццё падлеткаў у нашай краіне.

Зазначу: былыя выпускнікі гімназіі, якія цяпер займаюцца ў ВНУ, разам з гэтым удзельнічаюць у студэнцкіх навуковых таварыствах, выступаюць на міжнародных навуковых канферэнцыях у ЗША, Германіі і іншых краінах.

Настаўнікі гімназіі пераканаsuccessfully, што самае важнае для вучня, тым больш адоранага – стварэнне для яго сітуацыі поспеху і ўпэўненасці. Кожны вучань павінен у чымсьці, хаця б аднойчы, быць першым, лепшым, арыгінальным.

Лічу, што гэта лагічна як для выкладчыка, так і для вучня – прасякнуцца педагагічнымі наваўвядзеннямі. Напрыклад, больш за 40 працэнтаў настаўнікаў апрабіравалі мадэль школьна-сямейнага выхавання "Арыенцір".

Скажу і пра наступнае. У гімназіі распачата падрыхтоўка да пераходу вучняў старэйшых класаў да адукацыйнай тэхналогіі, якая дазволіць будаваць індывідуальную траекторыю развіцця для кожнага выхаванца з улікам ягоных асаблівасцей і патрэб. Гэта – мадэль мультыпрофільнага навучання.

...Як кіраўніку навучальнай установы, педагогу, ды і проста як грамадзянцы, мне прыемна ўсведамляць, што ў свет ідзе маладое пакаленне, якое вызначаецца талентамі, адоранасцю, новымі спадзяваннямі.

Разумею і падтрымліваю калег, якія ў штодзённай працы захоплены спасціжэннем, вывучэннем праяўлення здольнасцей, адоранасці выхаванцаў, іх псіхалагічных адметнасцей, пошукамі дыдактычных прыёмаў і метадаў.

**Валянціна ШЫРОКАВА, дырэктар гімназіі № 1 Віцебска.**



22 кастрычніка прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Генадзь Навіцкі прадставіў апарату Міністэрства адукацыі новага міністра Пятра Брыгадзіна.
НА ЗДЫМКУ: падчас цырымоніі.

**Фота Валерыя ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.**

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## І ўсё ж: фізік ці лірык?!

**Генадзь Уладзіміравіч Пальчык, дырэктар ліцэя БДУ.**

– Вельмі актуальнымі на сённяшні дзень з'яўляюцца пытанні арганізацыі зместу адукацыі на старэйшай ступені сярэдняй школы. Рэформа агульнаадукацыйнай школы, якая праводзіцца ў рэспубліцы, закранула на сённяшні дзень, па сутнасці, толькі пачатковую школу. Але паступова справа рухаецца наперад, і зараз ужо настаў час сур'ёзна падумаць аб старэйшай ступені, ці, гаворачы інакш, аб практычнай рэалізацыі прынцыпаў пераемнасці і бесперапыннасці ў адукацыйнай сістэме "школа-ліцэй-ВНУ". Адна з галоўных задач старэйшай ступені сярэдняй школы – падрыхтоўка падлеткаў да далейшага жыцця, г.зн. да далейшага навучання альбо да працы на прадпрыемстве. Калі браць ліцэй, дык асноўнай яго мэтай з'яўляецца падрыхтоўка навучэнцаў да далейшага навучання. Наогул інфармацыйнае грамадства, у якое ўступіў увесь свет у новым стагоддзі, патрабуе пастаяннага і бесперапыннага навучання. І ў гэтай сувязі, уяўляецца, трэба было б мяняць структуру вучэбных планаў, якая прапаноўваецца сёння старшакласнікам. Я маю на ўвазе тое, што зараз у план уключана вялікая колькасць абавязковых прадметаў, прычым на іх вывучэнне адводзіцца па 1-2 гадзіны ў тыдзень (гэта значыць, што вывучаюцца яны ўсё-такі даволі павярхоўна). На старэйшай ступені вучань ужо павінен вырашыць для сябе дылему, кім ён сябе бачыць: гуманітарыем альбо прыродазнаўцам (я кажу пра тых, хто збіраецца вучыцца далей). І на гэтым этапе не трэба "загружаць" іх 17-18 прадметамі. Прадметаў павінна быць не болей за 10. Будучаму філолагу матэматыка ў ліцэйскім класе таго зместу (а, магчыма, і аб'ёму), што даецца яму сёння, лічу, не патрэбна. Гэтаксама для гуманітарыяў трэба змяніць змест фізікі, хіміі і г.д.

Канешне, мы не павінны адыходзіць ад класічнай школы – у шырокім разуменні гэтага слова. Мы не павінны страціць акадэмічнасць. Ідэя тут такая: на старэйшай ступені ў ліцэях альбо ліцэйскіх класах трэба даваць прадметы блокамі.

Я б выдзеліў тры асноўныя блокі:

- прафіліруючыя прадметы;
- развіваюча-камунікатыўныя прадметы (замежныя мовы і інфарматыка); гэты блок павінны вывучаць усе, незалежна ад спецыялізацыі;
- інтэграваныя курсы. Скажам, для гуманітарыяў гэта будзе курс прыродазнаўства, які дазволіць ім дакладна ўсвядоміць асноўныя прычынна-выніковыя сувязі таго, што адбываецца вакол. Тое ж самае тычыцца тых вучняў, якія выбралі прыродазнаўчы напрамак. Для іх павінен быць інтэграваны курс літаратуры, які б на прыкладзе шэдэўраў мастацкай літаратуры і публіцыстыкі навучыў іх самастойна даваць ацэнку таму ці іншаму твору альбо публікацыі.

Акрамя таго, я б асобна выдзеліў такі прадмет як фізкультура, якая ў заходняй школе называецца "health" ("здароўе"). Зараз да нас прыйшлі дзеці, з якіх 280 чалавек (болей за 50 працэнтаў) патрапілі альбо ў спецыяльную, альбо ў падрыхтоўчую групу на фізкультуры. І гэта страшна. Калі мы вядзем гаворку пра здароўе нацыі, нам трэба ўспомніць аб тых праграмах па фізкультуры, якія мы сёння маем. Можа, не патрэбна тая здача нарматываў, якая практыкуецца сёння? Адкуль узяліся гэтыя стандарты: скокнуць на 1,20 м, напрыклад? Можа, лепш звярнуць увагу на дынаміку: учора вучань скокнуў на 50 см, а сёння – на 55 см? І за гэта паставіць яму "пяцёрку"?

І яшчэ што хацелася б сказаць: на старэйшай ступені хацелася б бачыць тры этапы:

– адаптацыя вучняў да далейшага навучання;
– прафарыентацыя (выбар ухілу навучання);
– спецыялізацыя (этап, калі вучань дакладна выбраў для сябе не проста ўхіл – гуманітарны альбо прыродазнаўчы, – а ўжо канкрэтны кірунак: фізмат альбо хіміка-біялагічны кірунак, гісторыю альбо філалогію, напрыклад).

Зыходзячы з гэтага, лагічна было б зрабіць старэйшую ступень трохгадовай. Гэта дазволіць стварыць прыгожы механізм рэалізацыі прынцыпаў пераемнасці і бесперапыннасці адукацыі, які нам проста неабходны. У нас не павінна быць сітуацыі, калі вучань, закончыўшы школу добра, на ўступным экзамене ў ВНУ з 10 балаў набірае 0. Гэта – трагедыя не вучня, а сістэмы. Таму, на мой погляд, мы павінны зараз сур'ёзна заняцца мадэліраваннем старэйшай ступені нашай школы. Гэта неабходна зрабіць, каб не страціць самае вялікае багацце нашай краіны – яе інтэлектуальны патэнцыял.

**Падрыхтавала Святлана СУБОЦІНА.**

## Прэм'ер-міністр прадставіў Міністра адукацыі

Новага Міністра адукацыі П.І.Брыгадзіна супрацоўнікам міністэрства і кіраўнікам сферы адукацыі прадставіў Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Г.В.Навіцкі. Ён павіншаваў Пятра Іванавіча з новым прызначэннем, пажадаў плённай працы на новай пасадзе. У кароткім выступленні Прэм'ер-міністр падкрэсліў вялікае значэнне адукацыі ў жыцці грамадства, звярнуў увагу прысутных на словы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якімі ён паставіў адукацыю на першае месца ў ліку інструментаў, закліканых забяспечыць рэалізацыю прыярытэтаў дзяржаўнай палітыкі.

"Ведаю, што ў нашай рэспубліцы ідзе рэформа школы, – падкрэсліў Г.В.Навіцкі, – што ўзровень адукаванасці – адзін з высокіх у свеце, але ведаю і аб праблемах у нашай сферы". На погляд Прэм'ер-міністра, галоўная з іх – здароўе вучняў, на якое не лепшым чынам уплываюць часам занадта складаныя вучэбныя праграмы. Такім чынам, найвышэйшая задача – падрыхтаваць і выхаваць здаровага чалавека.

Затым Міністр адукацыі П.І.Брыгадзін падзякаваў Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь за аказаны высокі давер, які абавязвае да многага, запэўніў, што зробіць усё, каб яго апраўдаць. "З чым мы выйдзем у свет, якое месца зоймем на рынку адукацыйных паслуг – над вырашэннем гэтых задач прыйдзецца працаваць", – зазначыў ён. П.І.Брыгадзін далей сказаў, што будзе ўдзячны ўсім тым, хто яго падтрымае ў час уваходжання ў новую работу.

На сустрэчы прысутнічаў таксама былы міністр В.І.Стражаў. Прэм'ер-міністр Г.В.Навіцкі выказаў удзячнасць яму за папярэднюю працу на пасадзе міністра і ўпэўненасць у тым, што яго здольнасці і вопыт будуць заўсёды запатрабаваны ў вырашэнні грамадскіх спраў. В.І.Стражаў, узяўшы слова, падзякаваў прысутным за падтрымку, якую ён пастаянна адчуваў з іх боку.

**Адам МАРКЕВІЧ.**

## БРЫГАДЗІН Пётр Іванавіч

Брыгадзін П.І. нарадзіўся ў 1949 годзе ў в.Маладава Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Беларус. У 1971 годзе скончыў Беларускі дзяржуніверсітэт. Па спецыяльнасці гісторык. Пасля заканчэння універсітэта з 1971 па 1973 гады служыў у арміі. Працоўную дзейнасць пачаў загадчыкам кабінета кафедры гісторыі КПСС гуманітарных факультэтаў Белдзяржуніверсітэта. З 1975 па 1977 гг. вучыўся ў аспірантуры БДУ. З 1977 па 1981 гг. – выкладчык кафедры гісторыі КПСС Белдзяржуніверсітэта, сакратар камітэта камсамола універсітэта. У 1981-1982 гг. – загадчык аддзела прапаганды і культурна-масавай работы ЦК ЛКСМБ, а з 1982 па 1984 гг. – намеснік сакратара парткама з правамі райкама КПБ Белдзяржуніверсітэта. З 1984 па 1988 гг. – інструктар аддзела навукі і навучальных устаноў ЦК КПБ. З 1988 па 1996 гг. – прарэктар па вучэбнай рабоце, загадчык кафедры гісторыі. У 1996-2000 гг. – першы прарэктар Белдзяржуніверсітэта, рэктар Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы. З 2000 года – рэктар Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Доктар гістарычных навук, прафесар. Заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь. Узнагароджаны медалём "За працоўную доблесць".

## Назначэнне

19 кастрычніка 2001 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка даў згоду на назначэнне першым намеснікам міністра адукацыі **Жука Аляксандра Іванавіча**.

Супрацоўніцтва

## Неўтаймоўны вынаходнік

***Днямі сталіцу чарговы раз наведаў знакаміты сярод педагогаў нашай краіны метадыст з Санкт-Пецярбурга Мікалай Аляксандравіч Зайцаў. Ён чытаў лекцыі па сваёй методыцы для настаўнікаў, выкладчыкаў педагагічных ВНУ і каледжаў у Акадэміі паслядыпломнай адукацыі.***

Мне давялося папрысутнічаць на адной з такіх лекцый, прысвечанай методыцы вывучэння англійскай мовы. На нейкі момант я зноў адчула сябе студэнткай: захацелася павучыцца, пазадаваць пытанні, але на лекцыі гэтага зрабіць не адважылася, таму проста слухала і назірала. Мне заўсёды падабаліся энергічныя, актыўныя па жыцці выкладчыкі. Мікалай Аляксандравіч – якраз з такіх. Ён вельмі даступна, без асаблівых намаганняў тлумачыў прысутным сэнс методыкі, прыводзіў шматлікія прыклады са сваёй педагагічнай практыкі. Яму хутка ўдаецца наладзіць кантакт з людзьмі (адчувалася па настроі аўдыторыі).

На лекцыі я зразумела асноўны прынцып методык Зайцава – сістэмнасць і экалагічнасць у адносінах да дзіцяці. Ім створана чатыры методыкі: па рускай мове, чытанні, матэматыцы і англійскай мове. Напрыклад, усім вядомы яго "Кубікі", якія дапускаюць вывучэнне і замацаванне тэхнікі чытання з прапяваннем алфавіта. Чытаць і пры гэтым спяваць – куды вясялей і хутчэй. Зыходзячы з методык Мікалая Аляксандравіча, дзіця павінна вучыцца гуляючы, не абмяжоўваючыся ў рухах і эмоцыях. "Любая методыка павінна будавацца на строгіх законах прыродаадпаведнасці развіцця дзіцяці", – гаворыць рускі фізіёлаг В.Ф.Базарны. На прыродаадпаведнасці і грунтуецца методыка Зайцава.

Ён вельмі шмат выкарыстоўвае нагляднасці: кубікі, малюнкі, што таксама немалаважна. Усё гэта дэманстравалася і слухачам.

І вось заняткі скончыліся, слухачы, а дакладней, слухачкі, пайшлі на перапынак. Канешне, я не магла пайсці не пазнаёміўшыся з гэтым чалавекам бліжэй, таму хуценька дастала дыктафон і накіравалася да яго за адказамі на пытанні, што круціліся ў галаве падчас лекцыі.

**- Мікалай Аляксандравіч, вас усе ведаюць як метадыста, а як чалавека, думаю, нямногія. Раскажыце, калі ласка, пра сябе.**

- Нарадзіўся ў 1939 годзе, у вёсцы. Бацькі былі настаўнікамі. Потым пачалася вайна, пасля якой нашу разбураную вёску ўжо не адрадзілі. І сям'я апынулася ў Ленінградзе, дзе я скончыў школу, працаваў на заводзе, пасля чаго зрабіў выбар, прычым свядомы – пайшоў вучыцца ў педагагічны інстытут. Вучыўся і адначасова працаваў: у дзіцячым доме выхавальнікам, выхавальнікам у калоніі непаўналетніх злачынцаў. Пасля паслалі ў Інданезію (на той момант (1960-1961) гэта была "гарачая кропка") ваенным перакладчыкам. У інстытуце атрымліваў спецыяльнасць філолага (руская і англійская мова). У Інданезіі мне ўпершыню прыйшлося выкладаць рускую мову як замежную, што вельмі захапіла. Вярнуўся з Інданезіі, скончыў інстытут. Паехаў па накіраванні ў Выбарг, там у школе выкладаў англійскую мову. Пасля вярнуўся ў Піцер, выкладаў рускую мову як замежную. Надакучыла – і я апынуўся ў дзіцячым садку, дзе пачаў ствараць сваю методыку. У 1989 годзе дабіўся таго, што яе пачалі друкаваць. Выйшлі мае "Кубікі", потым матэматыка, руская мова, англійская. Зараз чытаю лекцыі.

**- Для вас займацца методыкай - жыццёвая неабходнасць?**

– Калі працаваў настаўнікам і выхавальнікам, мяне не задавальняла, як наладжаны вучэбны працэс. Увесь час было адчуванне, што вучаць не так. Ведаеце, бываюць людзі такія неўтаймоўныя: ім усё нешта не падабаецца, пастаянна нешта хочацца палепшыць – вынаходнікі такія. Я належу да такой кагорты, проста трапіў у педагогіку, а ўвогуле – у мяне ёсць і тэхнічныя вынаходніцтвы. Калі чалавек – вынаходнік, дык яго, як гаворыцца, хлебам не кармі, а дай што-небудзь вынайсці. Вось з ранку да вечара і думаеш, прыдумляеш. А ў галіне методыкі навучання – вынаходніцтваў не так і шмат. Дактары і кандыдаты вынайсці ж нічога не могуць, яны толькі робяць агляд таго, што іншыя зробяць.

**- Па вашых методыках можна пачынаць вучыць дзяцей ледзь не з пялюшак. А як наконт іх здароўя? Вы кансультуецеся з фізіёлагамі?**

– Так, канешне, я супрацоўнічаю з вядомымі і добрымі фізіёлагамі Расіі – А.М.Шапавальнікавым, В.Ф.Базарным. А таксама з музыкантамі, псіхолагамі (толькі з прафесіяналамі). Пры стварэнні методык трэба абавязкова ўлічваць медыцынскі аспект, каб пры навучанні дзіця не хварэла.

А ў школах што? Адразу пачынаюцца праблемы са зрокам, паставай. Між іншым, у дзяўчынак з дрэннай паставай парушаецца функцыя дзетараджэння. Мы ж улічваем усё. Дзіця пачынае лепш мысліць, калі яго не абмяжоўваеш у рухах. Нам не трэба 12-гадовае навучанне. Агульнаадукацыйную школу можна скончыць за 6-8 гадоў, праграма яе – не такая ўжо і складаная.

**- Вамі распрацаваны методыкі па рускай мове, чытанні, матэматыцы і англійскай мове. У будучым не плануеце распрацаваць методыкі па іншых прадметах?**

– На жаль, я не хімік, не біёлаг, але знайшоў людзей, з якімі мы нешта робім па той жа біялогіі, геаграфіі. Галоўныя прадметы ў любой школе свету – родная мова і матэматыка. Менавіта яны фарміруюць логіку і мысленне. Калі гэта сфарміравана, то ўсё астатняе будзе лёгка ўспрымацца.

Хочацца зрабіць яшчэ шмат рэчаў, у прыватнасці па мове. Стварыць методыку па рускай мове як замежнай. Неабходна яшчэ рабіць і камп'ютэрныя праграмы. Час бяжыць хутка.

**- Прапановы з іншых краін паступаюць?**

– Па маёй методыцы працуюць на Украіне, у Казахстане. У Злучаных Штатах пабываў ужо чатыры разы, чытаў лекцыі ў васьмі універсітэтах. Зацікавіліся. Запрашаюць у Швецыю, Ізраіль. Вось, дарэчы, паехаў бы ў Ізраіль, каб не вайна.

**- На развітанне хачу адысці ад праблем методыкі і задаць наступнае пытанне: чым жывуць педагогі Санкт-Пецярбурга?**

– Чым жывуць... Аклады ў іх маленькія, таму жывуць марай аб прыбаўцы. Ёсць, канешне, актыўныя, якія змагаюцца, але ў большасці сваёй – пасіўныя. Калі ўвогуле, дык нічога ў Піцеры асаблівага няма. Кіраўніцтва не мяняецца, зрухаў ніякіх, а настаўнікі ж вельмі залежаць ад праграм, ад міністэрства.

**- Дзякуй вам, Мікалай Аляксандравіч, за размову.**

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**



*Наступны нумар "Настаўніцкай газеты" выйдзе ў свет 27 кастрычніка 2001 года.*

